# Дзічэем. Вершаў не чытаем. Душа паціху камянее

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

мяжу і зноў апынуўся ў Вільні, звязаўся з падполлем. Тыя пытаюцца, чаго прыехаў, чаму не затрымаўся, не пайшоў на курсы, як Таўлай, як іншыя? Гэта ўжо сёння я разумею, што каб тады затрымаўся ў Мінску, то напэўна не ацалеў бы. Ніхто з маіх сяброў, якія з Заходняй Беларусі пайшлі ў СССР, не выжылі.

**— Скажыце, а вас тады нічога не насцярожыла, не прымусіла задумацца, што адбываецца нешта не тое?**

— Як магло насцярожыць, яшчэ многія сябры тады працавалі ў Саюзе? Ды не атрымлівалі мы звестак, хто дзе знаходзіцца, што на самай справе адбываецца. Першая насцярожанасць з'явілася ў мяне пасля спробы самагубства Купалы, арышту групы нашых пісьменнікаў, дзеячаў культуры. Але прэса, якая прыходзіла з СССР, друкавала прызнанні людзей, іх пакаянні. Хіба можна было ўявіць, што гэтыя прызнанні вырывалі катаваннямі?

**— Ці сумяшчальнае гэта: Паэт і партыя?**

— Я ўступаў у камуністычную партыю ў 1936 годзе ў Заходняй Беларусі. Яна ў той час была выказнікам нацыянальных інтарэсаў народа. Вяла барацьбу за беларускую школу, выдавала часопісы. Калі палякі сталі паланізаваць царкву і паліць праваслаўныя каплічкі, спецыяльна былі выдзелены грошы дзеячу таварыства беларускай школы, каб ён напісаў гісторыю праваслаўнай царквы заходніх абласцей Беларусі. Быць членам партыі было не тое што не выйгрышным, але і небяспечным.

Для мяне, як для паэта, крыніцай творчасці стаў нацыянальна-вызваленчы рух Заходняй Беларусі.

**Арыгінальны талент і грамадскі вопыт рэвалюцыянера вызначылі самабытнасць і навізну паэзіі Максіма Танка, прынеслі ёй папулярнасць сярод радыкальнай моладзі і высокую ацэнку радыкальнай заходнебеларускай і польскай прэсы. На заходнебеларускую глебу ён пераносіць і развівае рэвалюцыйна-рамантычны купалаўскі ідэал паэта-змагара, які свядома звязвае свой лёс з прыгнечаным народам, адольвае нягоды, небяспеку, перамагае страх смерці і становіцца духоўным важаком вызваленчага руху, песняром змагання за праўду, справядлівасць і свабоду.**

**— А ў якія перыяды вам найбольш лёгка і плённа пісалася?**

— Самы цяжкі перыяд быў пасля далучэння Заходняй Беларусі: трэба было перабудавацца, засвоіць новую тэму. Даганяць сваіх калег, якія жылі даўно ў Савецкай Беларусі, было няпроста. Праўда, тэма гераізму і барацьбы супраць фашызму ў гады вайны магла ў нейкай меры натхняць і падказваць шлях развіцця пісьменнікам і паэтам Заходняй Беларусі. Для мяне асабіста гэта быў перыяд роздумаў, пошукаў самога сябе. Пасля вайны, здавалася б, лягчэй працавалася. Адбудова краіны, гераізм, мноства самых розных тэм, якія давалі магчымасць знаходзіць свой шлях. Пасля вайны ў мяне, я лічу, быў найбольш удалы зборнік — «Каб ведалі». Там нічога не прысвячалася культу, я пачынаў ужо намацваць арыгінальныя падыходы... Але тут сталі «закручваць гайкі». Выйшла некалькі маіх слабых зборнікаў, у тым ліку «На камні, жалезе і золаце». Далей пачаў паціхеньку вызваляцца з ідэалагічных канонаў, але гэта было нялёгка. Я даваў у друк звычайна цыклы вершаў, абмяркоўваючы іх папярэдне з сябрамі. Неаднойчы Куляшоў мне казаў, што тое ці іншае можа не пайсці. Нават такая мая патрыятычная паэма, як «Сон над Нёманам», выклікала крытычныя заўвагі з боку Пракоф'ева, Дудзінцава, калі перакладалася. Ведаючы афіцыяльную палітыку, у свае падборкі я звычайна даваў адзін «жалезабетонны» верш, які павінен быў мяне ратаваць ад прыдзірак цэнзараў і строгіх ідэолагаў.

**— Паважаны Яўген Іванавіч, у вас ёсць верш «Нашы шляхі», прысвечаны Наталлі Арсеньевай. Менавіта вашая паэзія рабіла стымуляцыйны ўплыў, як казала сама паэтка, на яе творчасць у 30-х гадах. Дарэчы, Наталля Арсеньева з вялікай прыязнасцю заўсёды згадвала пра Танка. Раскажыце, калі ласка, пра свае сустрэчы з ёй.**

— Мы выпадкова сустрэліся недзе ў 1936 годзе ў Вільні. Сабралася беларуская інтэлігенцыя на супольную гарбатку ў інжынера Трэпкі з намерам, канешне, пачытаць вершы, пагаварыць пра літаратурныя справы. Знайшліся «сваты», якія хацелі, каб мы з Арсеньевай творча пасябравалі. Але тады мы былі надта далёкія, яна — «чыстая эстэтка», я — «змагар, барацьбіт». Нягледзячы на гэта, я напісаў прысвечаны ёй верш, Наталля таксама адказала вершам. Знаёмства наша працягвалася. У 1939 годзе Арсеньева стала працаваць у рэдакцыі «Вілейскай праўды» стыльрэдактарам, а мая жонка — машыністкай. Яны пасябравалі. Я ж быў літработнікам аддзела культуры. Так што бачыліся штодня. На жаль, пасля вайны нам ужо не давялося сустрэцца. Я чытаў нядаўна зборнік яе вершаў, выдадзены ў ЗША. Нягледзячы на сваю адарванасць ад Беларусі, Арсеньева змагла застацца беларускай паэткай.

**— Ці захавалі вы свае камуністычныя перакананні?**

— Паслухайце лепш верш:

«Якімі пераканаўчымі былі ўсе  
довады пракрокаў, астролагаў,  
шаманаў аб існаванні казачнай  
краіны сонца.  
Хоць потым на шляху жыцця  
страчаў я шмат людзей,  
якія, пераканаўшыся  
ў хлуслівасці  
дарожных паказальнікаў,  
вярталіся, бо не знайшлі таго,  
чаго шукалі.  
Але, паколькі, непрадбачлівы,  
я за сабой паліў масты —  
не было спакусы для вяртання  
— далей працягваю пошукі  
загадкавай краіны, бо казкі  
нават з намі не ўміраюць».

Я папрасіла Яўгена Іванавіча пачытаць яшчэ новыя вершы, ведаючы, што ён мяркуе выдаць зборнік. Паэт ні хвіліны не раздумваў, выцягнуў са стала простыя школьныя сшыткі ў клетачку, спісаныя акуратным почыркам. Голас яго то гучнеў, то падаў да шэпту, а дзіўныя спалучэнні слоў, якія нараджалі ў гэтым пустым пакоі чароўныя вобразы і абуджалі пачуцці, ляталі, як загадкавыя птушкі, народжаныя натхненнем. У гэтых вершах немаладога Паэта было ўсё: і вопыт жыцця, і майстэрства, і лёгкасць, і складанасць, і бездапаможнасць, і разгубленасць, і пакуты, і радасць — адкрытая нарасхрыст жывая душа.

**Таццяна АНТОНАВА.**

### ПУХ ТАПАЛІНЫ

Не бойся, што нам здрадзіць сад  
І што абітая раса  
Сляды на мурагу пакіне.  
Сягоння нават стрэхі хат  
Пакрыў, бы ўзімку снегапад,  
Пух тапаліны.

Глядзі, як ён ляціць, ляціць!..  
Грэх ноч такую прапусціць,  
Не пакідаючы хаціны.  
Я ўпэўнены, што і сам Бог  
Для нас наўмысна прыбярог  
Пух тапаліны.

***

У наш век аўкстаманіі  
І мне прыслалі  
Апытальнік:  
«Што для вас даражэй:  
Свабода,  
Дружба,  
Справядлівасць,  
любоў...?»  
Я прыгадаў —  
Святой памяці  
Сваю бабку Улляну.  
Калі ў яе пыталіся:  
Каго яна  
Са сваіх дзяцей  
Найбольш любіць,  
Казала:  
«У мяне на руках —  
Дзесяць пальцаў,  
Але, які б ні параніла,  
Аднолькава баліць».

### ЗАМОВА АД ЗАСУХІ

Пякельная засуха!  
Можа, Бог — Дождж,  
Я перад табой  
Вінаваты найбольш.  
Бо часта ў жыцці  
На цябе наракаў,  
Калі да касцей  
Мяне паласаваў.  
За што, калі хочаш,  
Мяне і карай,  
Але шматпакутны  
Мой край не кідай,  
Вярніся — малю цябе —  
І напаі  
Засмяглыя дрэвы,  
Палі, ручаі.  
Ляціце ж ізноўку,  
Аблокі, у свой час  
На крылах грымотных  
Вясёлак да нас!

***

Калі памёр  
Змагар за волю — Байран,  
Жалоба Грэцыю  
Праз год не пакідала.  
А ў нас —  
Нат і сцягоў не прыхілілі  
У дні смерці  
Каліноўскага, Купалы,  
Трагедыі Чарнобыля.  
У гадавіны  
Тваіх Галгоф  
І Курапат, краіна,  
хоць не забылі  
У гэты час суровы  
Пра пустазвонства  
І дурман ідовішч.  
Ды і не дзіва!  
Колькі б ні шукалі,  
не знойдзеце вы  
У кодэксе ніводным,  
Дзе гаварылася б  
Аб пакаранні  
За спусташэнне  
Памяці народнай.

### ЛАСУНУ НА ЗАМЕТКУ

Добрым артыкулам даходу стаў у калгасе-аграфірме «Рагазнянскі» Жабінкаўскага раёна кандытарскі цэх. Толькі з пачатку гэтага года выручка ад рэалізацыі яго прадукцыі перавысіла тры мільёны рублёў. А вырабляюць тут вельмі папулярныя ласункі — дражэ «Полечка» і ірыс «Прыма».

Адкрыццё цэха дазволіла таксама калгасу вырашыць праблему забеспячэння работай больш пяцідзесяці жанчын.

НА ЗДЫМКУ: прадукцыю цэха прадстаўляе рабочая Алена КЛІМУК.

Фота Эдуарда КАБЯКА. (БЕЛІНФАРМ).




# Падарожжа з Леселідзе ў Гудауту

## на фоне грамадзянскай вайны

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Мізансцэна так нагадвае кадры фільма пра вайну, што я міжволі адчуваю сябе сярод дэкарацый, а не сярод рэальных рэчаў. Для поўнага адчування кіношнасці ваенных атрыбутаў не хапае хіба што гукаў паветранай трывогі.

Двое ўзбоч сталі гаварыць па-руску. Прыслухоўваюся да размовы. Размаўляюць пра загінуўшага знаёмага, якога ўзрывам разнесла на шматкі, пра падпалены ўчора грузінскі танк, пра тое, што не сёння-заўтра грузіны рушаць на Гудауту...

У мястэчку за сотню крокаў ад штаба ціха, бязлюдна, трывожна. Мужчыны ў апалчэнні: ужо тыдзень, як аб'яўлена поўная мабілізацыя. Хто меў магчымасць вывезці сем'і ў Расію — зрабілі гэта. Тым, хто спазніўся, цяжэй: грузінскі дэсант высадзіўся ля Леселідзе, побач з абхазска-расійскай граніцай, і адзіная дарога, што звязвае Сухумі з Сочы, аказалася блакіраванай. Цяпер шлях — толькі па моры.

Цішыня на фоне вымершага сонечнага горада палохае і прыгнятае. Пранізліва зялёнае мора і буйная трапічная расліннасць здаюцца выпадкова трапіўшымі сюды дэкарацыямі, якія не маюць да гэтай п'есы ніякага дачынення.

...Цэнтр Гудауты. Стары дагледжаны двухпавярховы будынак пад моцнай аховай. Калі меркаваць па шыльдзе — райсавет. Прыёмная, у якой ні вокнаў, ні электрычнасці. На стале ў ахоўнікаў — керасінавая лямпа, у няпэўным святле якой цьмяна бліщчыць варанёная сталь зброі.

А за дзвярыма — святло ў шырокіх вокнах і прывычны канцылярскі свет, — з паліраванымі сталамі, стосамі папер, траскучай машынкай, тэлефоннымі званкамі.

Мяне сустракае невысокі хударлявы чалавек. Знаёмімся. Альберт Тапальян — намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Абхазіі. Аказваецца, тут, у гэтым асабняку, працуе цяпер большая частка Прэзідыума абхазскага парламента, які пераехаў пасля таго, як у Сухумі ўвайшлі грузінскія танкі.

Тапальян пачынае размову не з Абхазіі — з Беларусі. Згадвае пра Брэст, Полацк, Слабодку. Вочы яго свецяцца непадробнай радасцю і сумам — успамінае маладосць, калі служыў у нашых мясцінах ваенным урачом.

Пра вайну выказванні рэзкія, жорсткія, катэгарычныя: агрэсія Грузіі, спроба сілай утрымаць развал малой імперыі, канец міфа пра дэмакрата Шэварднадзе.

У пакой заходзяць і падключаюцца да нашай размовы калегі Тапальяна — член Прэзідыума Вярхоўнага Савета, старшыня партыі Народны форум Сяргей Шамба і дэпутат парламента Зураб Ачба.

Дзеляцца навінамі, па маёй просьбе спрабуюць прагназаваць, як далей будзе складвацца сітуацыя.

— Грузіны не асмеляцца рухацца далей — яны здагадваюцца, чым ім гэта пагражае. Паднімецца Паўночны Каўказ, мы перакрыем усе камунікацыі. Гэта ж зробіць Дагестан, — гарачыцца Тапальян.

Ён жа расказвае, як на двухбаковых перагаворах Тэнгіз Кетавані ў прысутнасці членаў урада ў адказ на абвінавачванні ў марадзёрстве заявіў, што, пакуль яго салдаты не насыцяцца, з Сухумі не выйдуць.

Мне расказваюць пра забойствы, марадзёрствы, абстрэлы. Пераконваюць, што ў бліжэйшы час тбіліскія палітыкі сутыкнуцца з такімі ж канфліктамі ў раёнах, дзе жыве большасць мінгрэлаў, а таксама ў Аджарыі. Прарочаць палітычную смерць Шэварднадзе.

У разгар спрэчак (спрачаліся мае субяседнікі самі з сабой, я іх слухаў) у пакой зайшоў Уладзіслаў Ардзынба, лідэр абхазскага парламента. Хударлявы, высокі, гадоў сорак. У Абхазіі яго імя пачуеш на кожным кроку. Аўтарытэт сярод абхазцаў — найвышэйшы, мне не раз даводзілася пераконвацца ў гэтым.

Цвёрды ўпэўнены голас, дакладна вывераная мова, па якой без цяжкасці можна пазнаць навукоўца (Ардзынба — доктар гістарычных навук, дырэктар Абхазскага НДІ мовы, літаратуры і гісторыі). За шклянкай кампоту мы гаворым пра трагічныя здарэнні апошніх дзён. Ардзынба знешне спакойны, хоць тое, што адбылося ў Сухумі, несумненна, перавярнула ўсё яго жыццё.

— Шэварднадзе адрозніваецца ад Гамсахурдыя толькі тым, што Гамсахурдыя, што гаварыў, тое і рабіў, а гэты гаворыць адно, а робіць другое, — не шкадуе змрочных фарбаў на партрэт свайго палітычнага праціўніка Ардзынба. — Яго ўлюбёны прыём — пасля таго, як трагедыя адбылася, спасылацца на тое, што яму нічога не было вядома, або што ён не кантралюе сваіх ваенных. Яны разлічвалі, што я спалохаюся, падам у адстаўку. Ні за што. Адхіліць мяне можа толькі парламент.

І далей Ардзынба расказаў пра сваю нядаўнюю размову з Шэварднадзе па тэлефону, у час якой паабяцаў, што, калі войскі Дзяржсавета зоймуць Абхазію, гвардзейцы паднімуцца ў горы, і пачнецца партызанская вайна.

— А як ставяцца да падзей у Грузіі на Беларусі? — пацікавіўся ў мяне Ардзынба.

Я адказаў, што афіцыйных заяў наконт гэтага ў Мінску не прымалася. А ўвогуле, Беларусь пакуль што не прызнала незалежнасць Грузіі і не ўстанавіла з ёй адносін, — магчыма, гэта адбудзецца пасля парламенцкіх выбараў у Тбілісі, калі крэсла прэзідэнта зойме законна выбраны лідэр.

Ардзынба адабральна ўсміхнуўся, пачуўшы гэту, несумненна, прыемную для сябе навіну.

Я звярнуў увагу: ні на адным з маіх субяседнікаў не было вайсковай формы. І ўвогуле, у кабінеце — ніякіх атрыбутаў вайны. Мне здалося, гэтым кіраўнікі Абхазіі лішні раз хочуць падкрэсліць легітымнасць, законнасць сваёй улады — у процівагу грузінскаму Дзяржсавету, з прыхільнасцю некаторых яго членаў да партупей і эпалетаў.

ЗАЕЗДЖЫХ ГРУЗІН, якія не паспелі эвакуіравацца, абхазцы ў тыя дні часта бралі ў заложнікі. Адбывалася гэта, наколькі я мог бачыць, празаічна і будзённа, без усякага крыку і гвалту.

Вось звычайная для Піцунды карціна. Гвардзеец адпачывае на лаўцы, млява адкінуўшыся на спінку. Нікому няўцям, што з-за прыжмураных павек ён пільна назірае за тымі, хто, выходзячы са сталоўкі, ідзе міма лаўкі. Вось заўважыў некага, не паднімаючыся, кліча да сябе. Правярае дакументы. Калі пашпарт застаецца ў гвардзейца, значыць, прахожы — грузін. Каб атрымаць назад свае дакументы, ён павінен з'явіцца ў штаб, адкуль яго павязуць мяняць на абхазскіх заложнікаў. Усё надзвычай проста. І гэтак жа недарэчна.

Для мяне так і засталося загадкай, якім чынам па знешняму выгляду грузіны і абхазцы могуць амаль беспамылкова вызначаць «сваіх» і «не сваіх». Здаецца, тыя ж чорныя чупрыны, тыя ж цёмныя вочы, тыя ж жорсткія рысы твару і гордыя горскія паставы... Але падабенства гэта ўяўнае. Іх мовы, культуры, рэлігіі, звычаі — розныя, вельмі розныя. Абхазцы ад грузін адрозніваюцца прыкладна гэтак жа, як беларусы ад літоўцаў. Мовы належаць да розных груп. Этнічна абхазцы намнога бліжэй да народаў Паўночнага Каўказа. А іх рэлігійная прыналежнасць уражвае сваёй самабытнасцю. У Абхазіі не ўбачыш ні мячэцяў, ні цэркваў (за выключэннем хіба што тых, што пабудаваны яшчэ ў часы Візантыі).

— У нас ёсць свяшчэнныя месцы ў гарах, куды прыходзім, калі нам цяжка, — адказвалі мне звычайна абхазцы, калі пытаў пра іх рэлігію.

Зрэшты, некаторыя з іх лічаць сябе хрысціянамі, іншыя — мусульманамі. Але, па вялікаму рахунку, асноўная частка абхазцаў, як і іх далёкія прашчуры, так і засталіся язычнікамі, не заваяванымі ні заходнімі, ні ўсходнімі місіянерамі.

...З заложнікамі мне давялося сутыкнуцца яшчэ раз і вельмі нечаканым чынам. У адным з піцундскіх пансіянатаў, зайшоўшы ўвечары да знаёмых дзяўчат, убачыў у пакоі двух хлопцаў-грузін. Адзін з іх нерухома ляжаў на ложку і папрасіў прабачэння, што не можа падняцца для прывітання. Хлопцы нервова прыслухоўваліся да кожнага гуку за дзвярыма.

Ад таго, што нерухома ляжаў, мы пачулі гісторыю яго траўмы. Ён — тбіліскі студэнт. Колькі дзён назад, як і многіх іншых нетутэйшых грузін, яго ўзялі ў заложнікі, — тым жа цывілізаваным чынам, які я ўжо назіраў. Павезлі ў Гудауту мяняць. Чамусьці абмен не адбыўся, і іх прывезлі назад, але пашпарт яму не вярнулі. Заклапочаны студэнт вырашыў дабівацца справядлівасці. У штабе, па яго словах, абурыліся яго з'яўленню і параілі абысціся без пашпарта. А на вуліцы, калі ён ужо выправіўся ў пансіянат, ля яго нечакана спыніліся «Жыгулі», і невядомыя абхазцы паклікалі ў адчыненыя дзверы:

— Ты шукаў пашпарт? Зараз аддамо.

У машыне ён спіной адчуў аўтаматны ствол і зразумеў, што шанцы ўбачыць пашпарт у яго невялікія.

Яго і прыяцеля адвезлі ў горы, паставілі ля абрыву... Але не стралялі — спіхнулі ў цясніну. Чапляючыся за калючкі і кусты, яны падалі з дзесяціметровай вышыні. Потым няшчасны студэнт з дапамогай сябра, які абышоўся меншымі калецтвамі, дабраўся да бліжэйшага паселішча, знайшоў дом, у якім жылі грузіны...

Мне было дзіўна, што расказчык увесь час перапыняецца, каб прыслухацца да цішыні за дзвярыма. Было чуваць, як у суседні пакой пастукалі, загадным голасам папрасілі адчыніць. Наш расказчык папоўз пад коўдру, яго прыяцель збялеў, пачаў хрысціцца і шаптаць словы малітвы.

Я выйшаў з пакоя. На калідоры ля дзвярэй аднаго з нумароў стаяў гвардзеец з абрэзам. Другі ў гэты час быў унутры. Па ўсім відаць, шукалі грузін...

Для студэнта ўсё закончылася больш-менш удала. Я пазней бачыў яго на ваенна-транспартным караблі, што эвакуіраваў адпачываючых з Піцунды. Карабель паўсутак стаяў на рэйдзе. Уначы нехта пусціў чутку, што абхазцы прыплылі на шлюпцы, вылоўліваюць грузін. Бядак-студэнт са сваёй скалечанай спіной усю ноч праляжаў пад сталом у кубрыку.

У ПІЦУНДЗЕ кожны газетны кіёск нагадваў мне пра Беларусь гістарычнымі раманамі Кастуся Тарасава. Свежыя газеты ў Абхазію ў гэтыя тыдні не паступалі, так што выбару ў чытанні ў курортнікаў было мала. Бралі Тарасава. І потым нават можна было пачуць на ўзбярэжжы, як абмяркоўвалі. Я, хоць і паспрабаваў — не здолеў высветліць прычыны такой цікавасці абхазскага «Саюздруку» выключна да творчасці беларускага гісторыка. Хутчэй за ўсё, гэта было звычайнай выпадковасцю.

...Флагшток над пассаветам першыя дні пуставаў. Потым на ім з'явіўся новы дзяржаўны сцяг Абхазіі — мудрагелісты, на манер амерыканскага — зорна-паласаты. Зялёна-белыя палосы з чырвоным прамавугольнікам ля дрэўка. У прамавугольніку — выява белай далоні і сем зорачак. Сем зорачак — даведаўся, — гэта сем гарадоў Абхазіі. А пра белую далонь знаёмыя абхазцы нічога пэўнага сказаць не маглі. У апошнія дні нашыўкі з белай далонню і зялёныя павязкі на галовах з'явіліся ў многіх абхазскіх гвардзейцаў. Новая сімволіка з першых дзён жыцця замацоўваецца крывёю.

Сцяг для пассавета — ведаю, — шылі жанчыны-абхазкі. Яны ж пяклі хлеб для гвардзейцаў. Хлеба ў апошнія дні жніўня стала не хапаць, — нават тым, хто адпачываў у пансіянатах, выдавалі толькі па дзве вузенькія лустачкі лавашу. Хоць усе бачылі, што да гэтых жа пансіянатаўскіх сталовых рэгулярна пад'язджалі гвардзейцы і грузілі ў машыны свежаспечаны хлеб. Ніхто не пярэчыў.

Жанчыны ж у тыя дні збіралі медыкаменты, аптэчкі. Бачыў, як усё гэта зносілася ў пассавет, раскладвалася па скрынках.

...У гэтыя цудоўныя дні «бархатнага» сезона на выдатных пляжах чарнаморскага ўзбярэжжа Абхазіі ўпершыню пасля другой сусветнай вайны ніхто не адпачывае. Там грыміць грамадзянская вайна. І яшчэ доўга ў перадгор'ях Каўказа будуць гучаць стрэлы і гінуць людзі. Нягледзячы на неаднаразовыя пагадненні аб перамір'і, падпісаныя ў Сочы, Адлеры, Маскве. Вось і апошняя дамоўленасць аб размежаванні канфліктуючых бакоў па рацэ Гуміста парушана. Страляюць у Гагры, Верхняй Эшэры, Ачамчыры. Лініі фронту ў Абхазіі няма — названыя вышэй паселішчы знаходзяцца ў розных канцах рэспублікі. Многія назіральнікі ўскладаюць віну за перастрэлкі на ўзброеныя фарміраванні Канфедэрацыі горскіх народаў. Але не варта забываць, у адказ на якую акцыю Грузіі аб'ядналіся народы Паўночнага Каўказа.

У гэтай вайне, як і ў іншых рэгіянальных канфліктах на прасторах былога СССР, не будзе пераможцаў і пераможаных. Мір прыйдзе сюды пасля таго, як спрацуе фактар стомленасці, — калі ўсім канфліктуючым бакам стане відавочнай бескарыснасць далейшага ўзброенага супрацьстаяння. Хочацца спадзявацца, што Грузіі, якая ўжо мае сумны вопыт нядаўняй грамадзянскай вайны з Паўднёвай Асеціяй, не спатрэбіцца на гэта шмат часу. Тым больш, што да парламенцкіх выбараў у Тбілісі застаюцца лічаныя тыдні.

На першы погляд, цяжка гаварыць аб уроках абхазскай трагедыі для Беларусі. Тым не менш, ні адна з маладых краін Усходняй Еўропы не застрахавана ад міжэтнічных канфліктаў. Полымя міжнацыянальнай варожасці можа ўспыхнуць ад самай бяскрыўднай іскры. Ва ўмовах Беларусі з яе каласальнымі запасамі звычайных узбраенняў любы падобны канфлікт меў бы непрадказальныя вынікі. (Сцены ваенных гарадкоў, як паказаў вопыт, не служаць перашкодай для распаўзання зброі ў час такіх сутычак).

...Карабах, Прыднястроўе, Асеція, Таджыкістан... Балюча ўсведамляць, але на гэтым трагічны спіс наўрад ці завершыцца. Веру, што ў ім ніколі не будзе значыцца Беларусь. Але адной веры мала. Трэба ведаць, што нас чакае ў выпадку памылкі. І не памыліцца, калі настане час выбіраць тых, хто мае права аддаць загад на прымяненне зброі, але ні ў якім разе не павінен дапусціць таго, каб давялося гэтым правам карыстацца.

**Валянцін ЖДАНКО, спецыяльны карэспандэнт «Звязды».**

Леселідзе — Піцунда — Гудаута.

ЭКАЛОГІЯ І МЫ

# Беларускае Паазер'е: перспектывы квітнеючага краю ці хворай зямлі?

**Вучоныя б'юць трывогу: адбываецца даволі няўмелае ўмяшанне ў тонкі экалагічны арганізм Паазер'я. А гэта амаль трэць тэрыторыі рэспублікі: практычна ўся Віцебшчына, паўночны ўсход Гродзенскай і частка Мінскай абласцей. Па ўплыву на клімат Беларусі яго можна ставіць адразу пасля вільготнага дыхання Балтыкі, настолькі тут вялікае воднае люстэрка.**

**Аглядальнік «Звязды» гутарыць з акадэмікам-сакратаром Аддзялення хімічных і геалагічных навук АНБ, дырэктарам Інстытута праблем выкарыстання прыродных рэсурсаў і экалогіі І. ЛІШТВАНАМ.**

— Адразу ж давайце падкрэслім важную акалічнасць. Чарнобыль нам папсаваў трэць тэрыторыі. На ўвесь рост паўстала задача павышэння прадуктыўнасці чыстых зямель. Зусім апраўдана погляды спецыялістаў звярнуліся ў бок Паазер'я. Там — зноў ледзьве не трэць тэрыторыі рэспублікі. Але вельмі неўпарадкаваная. Няхай на нас не крыўдуюць за такое вызначэнне мясцовыя аграрнікі. Каб чытачу былі зразумелы ўмовы, у якіх ім даводзіцца працаваць, накідайце хоць бы штрыхамі «партрэт» краю.

— Край надзвычай багаты, кажучы па-расійску — «благодатный». Яго «візітная картка», бадай, азёры — звыш трох тысяч. Але ж рэльеф — то ўзвышша, то нізіна, то града! Шмат забалочаных і балотных глеб. Больш палавіны зямель — пераўвільготненыя. І амаль паўсюдна засмечаны валунамі розных памераў. Дадайце сюды хмызнякі, якія займаюць больш палавіны пашы, стракатасць глебавага покрыва. У выніку склалася дробная контурнасць сельгасугоддзяў, не надта разгонішся на «Кіраўцы».

— Панацэя знойдзена даўно — меліярацыя. Але спецыялісты сцвярджаюць, што традыцыйныя яе прыёмы тут малаэфектыўныя. Асабліва абрэзкавая меліярацыя, выхапліванне асобных участкаў з агульнай экасістэмы. Тым не менш, здаецца, ідзе менавіта такое меліяраванне...

— І яно не дае жаданага эфекту. Бо схемы меліярацыйнага пераўтварэння практычна не ўзгадняюцца з іншымі схемамі і праектамі. А бывае і так, што меліяруюць амаль без праектных распрацовак, гаспадаркам здаюць незавершаныя аб'екты. Не заўсёды пасля асушальнай гідрамеліярацыі робіцца акультурванне глебы, якое павінна тут адыгрываць галоўную ролю.

Вельмі кідаецца ў вочы недастатковасць прыродаахоўных мерапрыемстваў. Малым рэкам спрамляюць рэчышчы. Неачышчаныя дрэнажныя воды скідваюць у рэкі і азёры, таму што няма (ці мала) сажалак-адстойнікаў. Змыванню прадуктаў эрозіі і біягенных элементаў садзейнічае тое, што землі ўзворваюцца ажно да ўрэзу рэк. Асабліва «спрыяюць» жывёлагадоўчыя комплексы, што не маюць бетонных сховішчаў для арганікі і ачышчальных збудаванняў. Каб была адзіная рэгіянальная схема прыродаахоўных мерапрыемстваў, яна прадугледжвала б стварэнне і размежавальных палос, і заказнікаў, і рэзерватаў, і міграцыйных калідораў, і г. д.

Трэба істотна перабудоўваць усю стратэгію земляробства ў Беларускім Паазер'і. А таму не абысціся без навукова абгрунтаванай канцэпцыі меліярацыйнага будаўніцтва.

Яшчэ летам 1990 года экалагічная камісія акадэміі і яе навуковы савет па праблемах Палесся прызналі немэтазгодным правядзенне гідрамеліярацыйнага асушэння новых зямель без такой канцэпцыі. Нашы пратэсты пакуль што нікога не спынілі. Па даручэнню Савета Міністраў у Паазер'і падбіраюцца аб'екты меліяравання, якія павінны да канца 1995 года ўвесці ў сельскагаспадарчы абарот прыкладна 400 тысяч гектараў. Мяне асабіста такі размах трывожыць.

— Гаворачы аб неабходнасці навуковай канцэпцыі меліярацыі ў Беларускім Паазер'і, вучоныя сёння могуць прапанаваць нейкія новыя падыходы?

— Маючы на ўвазе не толькі павышэнне прадуктыўнасці зямель, але і захаванне іх экалагічнай устойлівасці, мы лічым, што час перагледзець некаторыя нарматыўна-планіровачныя крытэрыі меліярацыі. У прыватнасці, варта адчувальна знізіць каэфіцыент выкарыстання зямель. Высокі сённяшні каэфіцыент (ад 0,86 да 0,98) арыентуе толькі на сельскагаспадарчае, прытым інтэнсіўнае, выкарыстанне ўпарадкаваных угоддзяў. Яго зніжэнне і тэрытарыяльная дыферэнцыяцыя дазволяць захаваць унутры меліяраваных ландшафтаў прыродаахоўныя аб'екты, у тым ліку дробнамасіўныя ўчасткі лесу, парослыя хмызняком і затарфаваныя катлавіны. Не здзіўляйцеся, і затарфаваныя таксама. Мы прыйшлі да разумення, што ўсё створанае прыродай патрэбна і суцэльнае вынішчэнне балот было памылкай. Парушылася раўнавага функцыяніравання падземных патокаў грунтавых вод, што складвалася стагоддзямі.

Нам не трэба імкнуцца зрабіць з Віцебшчыны казахстанскую цаліну з яе прасторамі. Існуе паказчык неаднароднасці глебавага покрыва, і ён можа служыць арыенцірам, дзе і што размяшчаць. А значыць, як палепшыць зямельна-водныя рэсурсы. Калі каэфіцыент неаднароднасці звыш 30-ці, то такія ўчасткі трэба адводзіць пад лясныя насаджэнні (ці пакідаць іх, калі яны ёсць). Ад 15 да 30 — пад шматгадовыя травы, менш за 15 — пад ворыва. І толькі на перспектыўных (ворных) масівах ёсць сэнс праводзіць меліярацыйныя мерапрыемствы. Першачарговымі аб'ектамі меліярацыі павінны стаць прыродныя комплексы, на якіх ёсць магчымасць атрымаць з гектара звыш 50 цэнтнераў кармавых адзінак. І я не чапаў бы пакуль што тэрыторыі, дзе і на 20 цэнтнераў не выйдзеш.

Больш рацыянальным павінна быць прасторавае размяшчэнне плануемых меліярацыйных аб'ектаў. А акцэнты варта рабіць не столькі на будаўніцтве асушальна-ўвільгатняльных сістэм, колькі на аграхімічным, агратэхнічным і культуртэхнічным паляпшэнні зямель. Адным словам, уся справа ў тым, каб сапраўды змяніць падыходы. І на аснове апошніх навуковых і праектна-тэхнічных даследаванняў перагледзець складзеную яшчэ ў 1978 годзе схему комплекснай меліярацыі зямель басейна Заходняй Дзвіны.

Год назад Белгіправадгасу даручылі нарэшце ўдакладніць генеральную схему асваення прыродных комплексаў усяго Беларускага Паазер'я. А навуковае абгрунтаванне яе перадалі Беларускаму экалагічнаму саюзу, які наняў, можна сказаць, у прыватным парадку групу вучоных з розных інстытутаў і дзяржаўнага універсітэта. Атрымалася, што самі інстытуты, у тым ліку акадэмічныя, засталіся ўбаку і не адказваюць за змест і эфектыўнасць ідэй сваіх супрацоўнікаў, якія ўвайшлі ў творчы калектыў. Гэта было б яшчэ паўбяды, але Белгіправадгас ужо вядзе свае работы, а навуковага абгрунтавання пакуль што няма.

Мы звяртаемся да практыкаў, да кіраўнікоў мясцовых органаў: спыніце сляпую меліярацыю. Каб не загубіць унікальны край — Беларускае Паазер'е. Барані яго Бог ад лёсу Палесся — той жамчужыны, якую мы не зберaглі.

— Іван Іванавіч, сёння адных заклікаў недастаткова. Іх, як правіла, мала хто чуе.

— Свае прапановы экалагічная камісія АНБ накіравала ў адпаведную камісію Вярхоўнага Савета. Разлічваем, што там да іх паставяцца сур'ёзна.

**Уладзімір ХІЛЬКЕВІЧ.**

